*кайцеся і верце ў Эвангелле*
*(Эвангелле ад Марка 1,15.)*

# КАТАЛІЦКІ ВЕСНІК



**1.1991**

**Рыга**

# К А Л Я Н Д А Р

## *АБАВЯЗКОВЫЯ СВЯТЫ*

Гэта ёсць такія святы, у якія нельга займацца цяжкою працай і абавязкова трэба прысутнічаць на Святой Месе.

1. Усе нядзелі года. У нядзелі таксама бываюць Вялікдзень (Пасха), свята Сыходжання Святога Духа (Пяцідзесятніца), свята Найсвятой Тройцы.

2. Новы год (свята Боскага Мацярынства Найсвятой Дзевы Марыі)........................................ 1-га студзеня

3. Богааб'яўленне (Трох Каралёў)...................... 6-га студзеня

4. Ушэсце........................ на 40-ый дзень пасля Вялікдня

5. Свята Найсвятой Эўхарыстыі (Цела Хрыстовае)

6. Св.Апосталаў Пятра і Паўла............ 29-га чэрвеня

7. Узяцце на неба Найсвятой Дзевы Марыі....... 15-га жніўня

8. Усіх Святых.................................... 1-га лістапада

9. Непарочнае зачацце Найсвятой Дзевы Марыі.....8-га снежня

10. Нараджэнне Хрыстовае.................. 25-га снежня

---

З дазволу Каталіцкае Царкоўнае Ўлады

# ПРОПАВЕДЗЬ.

*"Ян сказаў Ісусу: Настаўнік, мы бачылі аднаго, які Тваім Імянем выганяе нячысіцікаў, але не ходзіць з намі, дык мы забаранілі яму, бо не ходзіць з намі. Ісус жа сказаў: Не забараняйце яму. Бо няма такога, хто ўчыніўшы цуд Маім Імянем, мог бы хутка дрэнна гаварыць аба Мне. Бо хто не процi нас,той за нас. І хто напоіць вас кубкам вады ў Маё Імя, затым што вы Хрыстовыя, сапраўды кажу вам, не страціць свае нагароды. І хто спакусіць аднаго з гэтых малых, што вераць у Мяне, таму было б лепш, каб яму павесілі на шыю жарнавы камень ды кінулі ў мора. І калі цябе спакушае твая рука, адсячы яе: лепей табе калекам увайсці ў жыццё, чым з дзвюма рукамі ісці ў геену, ў агонь нязгасны, дзе іх чарвяк не ўмірае і агонь не гасне. І калі твая нага спакушае цябе, адсячы яе: лепей табе ўвайсці ў жыццё кульгавым, чым з дзвюма нагамі быць укіненым у геену, дзе іх чарвяк не ўмірае і агонь не гасне. І калі твае вока спакушае цябе, вырві яго: лепей табе аднавокім увайсці ў Валадарства Божае, чым з дзвюма вачыма быць укіненым у геену вогненую, дзе іх чарвяк не ўмірае і агонь не гасне."*

*Эвангелле ад Марка IX, 38-48.*

Гэтае павучэнне Хрыста Ягоным Апосталам ёсць працягам таго навучання, якое Ён пачаў у Капэрнауме. Там Хрыстос даваў у прыклад Апосталам дзіця і прытым зазначыў, што кожны той, хто прымае дзіця ў Ягонае імя, прымае Яго Самога. Слухаючы тыя словы Хрыста, Апостал Ян прыгадаў выпадак з часоў, калі яны выконвалі самастойную місію і бачылі якогасць чалавека, які выганяў нячысцікаў у імя Хрыста, але сам не належаў да вучняў Хрыста, дзеля гэтага Апосталы тады забаранілі таму чалавеку карыстацца для цудаў імянем Хрыста. Такое забароны Хрыстос не пахваліў, але і не дакараў за яе Апосталаў, а навучыў іх, што нельга забараняць іншым карыстацца Ягоным імянем для добрых мэтаў. Хоць нехта афіцыяльна і не належыць да Хрыстовых вучняў, але калі настолькі верыць Хрысту, што Ягоным імянем можа рабіць цуды, дык напэўна не будзе варожым да Хрыста. Гэтая праўда адносіцца да ўсіх хрысціянаў, таму Хрыстос выказаў яе коратка ў форме больш агульнага сцверджання: "хто не процi нас, той за нас."

Пасля гэтага Хрыстос, навучаючы далей Апосталаў, звярнуўся да справы адносін у грамадзе Ягоных паслядоўнікаў, каб паказаць, што ўсякая дзейнасць у дачасным жыцці мае далёкасяжнае значэнне. Кожны людскі ўчынак будзе адпаведна ацэнены ў

будучым жыцці. Усе добрыя ўчынкі - гэта скарб, за які атрымаецца нагароду, дрэнныя ўчынкі - гэта небяспека вечнага асуджэння. Нават самыя дробныя ўчынкі, якія выкананы ў імя Хрыста,будуць добра узнагароджаны. Нават такая дробная прыслуга, як падаць Хрыстовым вучням кубак вады, ніколі не будзе забытая. І, наадварот, усё тое дрэннае, што псуе самога чалавека і псуе іншых, што вядзе да граху, усё гэта заслугоўвае на вечную кару. Таму з'яўляецца надзвычайна важнаю жыццёваю справаю, каб унікаць усяго таго, што вядзе да граху. Хрыстос перасцерагае, што асабліва кары годным з'яўляецца спакушэнне да граху па-дзіцячы шчыра веруючых. Такім спакуснікам было б значна меншым пакараннем, каб іх, прывязаўшы на шыю жарнавы камень, укінулі ў мора, чым тыя кары, якія іх чакаюць у будучым жыцці.

Акрамя спакусаў ад іншых людзей, кожны чалавек мае спакусы ў сабе самым. Хрыстос асцерагае,што ніколі нельга патураць тым спакусам, але трэба рашуча іх адкінуць. І калі б тыя спакусы прадстаўляліся нам у такой вартасці, як свая рука, ці свая нага, або сваё вока, дык усё роўна іх трэба адкінуць, каб праз іх не трапіць у вечныя мукі. Выражэнне: "адсячы руку," "адсячы нагу," "вырваць вока" Хрыстос ужывае ў пераносным значэнні. Гэта ясна з таго, што нават акалечаныя людзі: аднарукія, кульгавыя і аднавокія маюць такія самыя спакусы да грахоў, як і зусім здаровыя. Найбольш глыбокаю прычынаю спакусаў да граху з'яўляюцца нашы пачуцці. Найглыбейшыя карэнні граху знаходзяцца ў нашым сэрцы і адтуль іх трэба рашуча вырываць і адкідаць.

Месца вечных мукаў Хрыстос называе геенаю, дзе агонь не гасне і чарвяк не ўмірае. Гэтыя значэнні мукаў называе Ён згодна з прароцтвам Ісаіі. Геена - гэта даліна на паўднёвым захадзе ад Ерусаліму, даўней яна называлася па-арамейску: Бвель-Хінон - "даліна сына Хінана." У VIII-м веку да Хрыста яўрэйскі цар Ахаз, паддаўшыся паганскім уплывам, у той даліне аддаваў культ паганскаму ідалу Малоху,якому прыносілі ў ахвяры людзей. Сам Ахаз у ахвяры Малоху там спаліў жыўцом аднаго свайго сына. Потым іншы яўрэйскі цар - Манасія быў аднавіў на некаторы час культ Малоха, але затым цар Ёсія выкінуў у геену трупы людзей і смецце з Ерусаліму ды казаў усё гэта спальваць , дык там гарэў агонь на працягу дня і ночы. Таму ўжо ў І-м веку да Хрыста слова "геена" ўжывалася замест слова "пекла".

Агонь, акрамя свайго ўласцівага значэння праз тое, што спрычыняе даймаючы боль, наогул азначае даймаючыя мукі. А чарвяк, які ніколі не ўмірае, азначае мукі сумлення, якія ніколі не даюць чалавеку супакою. У беларускай мове гэтае цярпенне выказваюць выражэннем: "кошкі за сэрца бяруць". Гэткі вобразны спосаб выказвання мукаў Хрыстос ужываў умысна, бо такія выражэнні былі найбольш даступныя для людской уявы. Існаванне пекла і пякельных мукаў - гэта праўда, якая шмат каму вельмі непрыемная, але гэта бяспрэчная праўда, таму аб ёй нельга прамоўчваць, як гэта ў наш час хочуць некаторыя людзі. Прамоўчванне існавання страшнай небяспекі,якою ёсць пекла, было б злачынствам з боку тых,якія,ведаючы аб гэтай небяспецы ды

каб аб ёй не гаварылі. Бо гаворыцца аб пекле не на тое, каб палохаць людзей, але на тое,каб туды не трапілі. Беларуская народная мудрасць кажа:"Ад ціха ўсё ліха." І сапраўды, было б страшэннае ліха, каб не перасцерагаць іншых аб небяспецы вечных мукаў у пекле. Ведаючы небяспеку, яе магчыма лёгка абмінуць.

Гэтая перасцярога можа быць збаўчаю нават і для няверуючых. Аб гэтым сведчуць мноства гістарычных фактаў. Успомнім хоць адзін. У ведамай французскай вайсковай школе Францір перад першаю сусветнаю вайною быў такі выпадак. У часе Вялікага Посту духоўны айцец тае школы аднойчы гаварыў навучанне аб пекле да вучняў і настаўнікаў. Калі пасля навучання духоўны ішоў у свой пакой, яго спыніў настаўнік-капітан і запытаўся з насмешкаю: "Скажыце мне, ойча, ці ў пекле будуць смажыць, ці кіпяціць?" Духоўны, глянуўшы паважна на капітана, спакойна адказаў яму: "Там убачыце, капітане, убачыце!" Капітан пакінуў смяяцца. І некалькі месяцаў пасля таго здарэння, стаўся шчыра веруючым, і казаў, што пачаткам яго навернання быў якраз той паважны адказ святара.

Сведчанні аб існаванні пекла ўжо былі выказаны ў старазапаветным аб'яўленні, але найбольш ясна даказаў гэтую праўду Ісус Хрыстос, Які бесканечна любіў і любіць увесь людскі род і Які для выратавання людзей ад пекла працярпеў страшэнныя мукі і ганебную смерць на крыжы. Якраз дзеля Свае любові Хрыстос асцерагаў і цяпер асцерагае усіх праз Сваю Царкву,каб не трапіць чалавеку у тое страшэннае пекла.

Хрыстовае навучанне Апосталам ёсць заўсёды актуальным для ўсіх людзей, бо людзі заўсёды ў глыбіні душы астаюцца людзьмі з усімі сваімі добрымі якасцямі і з дрэннымі нахіламі. Ніякая Божая ласка не нішчыць у глыбіні нашых сэрцаў тых карэнняў, з якіх вырастае ліхазелле ўсякіх дрэнных учынкаў, усякіх грахоў. Таму словы Хрыста прыпамінаюць абавязак кожнага чалавека адносна самога сябе, каб вырваць з сэрца ўсе тыя ліхія парасткі, якія пагражаюць загубаю душы. Бо збавіць сваю душу і дасягнуць вечнае шчаслівае жыццё - гэта з'яўляецца найважнейшаю справаю нашага жыцця на зямлі. Амэн.

---



*" Хто пачынае маліцца, пакідае грашыць; а хто пакідае маліцца, пачынае грашыць."*

**св. Аўгусцін**



## *Святы Апостал Пётр*
### *разважанне**

Зараз будзем разважаць аб князю Апосталаў і атрымаем з таго падвойную карысць: 1) памнажэнне веры; 2) памнажэнне любові. Затым пастановім сабе: 1) утрымаць у сабе дух веры, гэта значыць думаць, гаварыць і дзейнічаць паводле прынцыпаў веры; 2) пабуджаць сябе штодня да любові Божае пакорнай, гарлівай і шчодрай. Нашым духоўным букетам будуць гэтыя словы святога Пятра: ***"Госпадзе, Ты ўсё ведаеш, Ты ведаеш, што я люблю Цябе"*** ( Ян.XXI, 17).

Аддайма чэсць Ісусу Хрысту, Які паставіў Сымана Пятра над іншымі Апосталамі, нават над святым Паўлам, даўшы святому Пятру найвышэйшую ўладу, гэта значыць годнасць біскупа ўсяго свету, пастыра ўсяго статку Хрыстовага. Выкажам падзяку Ісусу Хрысту за тую чэсць, якою Ён надзяліў святога Пятра; шануйма гэтую так высокую годнасць у яго асобе ды ў асобе ягоных наступнікаў, праз якіх Хрыстос да нас прамаўляе і намі кіруе.

**Прыклад святога Пятра павінен абуджаць у нас бо́льшую веру.**

Прыклад святога Пятра, які ёсць узорам і захавальнікам веры, павінен нас пабуджаць да веры ўсё больш дасканалай. Ён ёсць узорам веры. Вера яго - звышнатуральная, якая паходзіць непасрэдна з неба. ***"За каго ўважаюць людзі Мяне, Сына Чалавечага?*** *( Мац. XVI, 13)* - спытаў Ісус Сваіх Апосталаў. ***"Госпадзе,*** - усклікае Пётр,- ***Ты - Хрыстос, Сын Бога жывога"*** *( Мац. XVI, 16)*. ***" Блаславёны ты, Сымане, сыне Ёны, бо не цела і кроў гэта табе аб'явілі, але Айцец Мой, Каторы ёсць у небе"****( Мац. XVI, 17).* Вера Пятра ёсць вялікадушная: ён усяго выракаецца, каб ісці за Ісусам Хрыстом. Ягоная вера нічым не спакушаецца. Некаторыя вучні не хочуць верыць Ісусу Хрысту, Які ім гаворыць першы раз аб устанаўленні Найсвятой Эўхарыстыі. Што да мяне, усклікае Пётр, я веру ў Тваю любоў і застануся верным Табе. ***" Госпадзе! да каго нам ісці? Ты маеш словы жыцця вечнага"****( Ян. VI, 68).* Вялікая вера святога Пятра вучыць нас цаніць Бога вышэй за ўсё, вырачыся сябе самога, адрачыся ад усіх дачасных даброў, вырачыся ўсяго дзеля падабання Ісусу Хрысту, нічым не спакушацца, не зважаючы на прыхільнасць людзей! Разгледзім нашае сумленне і ўбачым: замест таго, каб жыць духам веры, ці не кіруемся мы духам гэтага свету,

---

* Ва ўступе гэтага разважання змешчаныя: 1) пункты разважання; 2) рашэнні, якія павінны быць практычным вынікам медытацыі. У канцы прыдадзена тое, што святы Францыск Сальскі называе духоўным букетам, гэта значыць добрая думка, якая з'яўляецца як бы сутнасцю разважання, і якой духмянасць, напаўняючы наша сэрца на працягу дня, павінна прыпамінаць нам ранішняе разважанне.

ягонымі фальшывымі прынцыпамі, процілеглымі эвангельскаму вучэнню.

2) Святы Пётр не толькі ёсць ўзорам веры, акрамя таго, ён ёсць яе захавальнікам, бо яму сказаў Ісус Хрыстос: *" І Я кажу табе: ты – Пётр* [*]*, і на гэтай скале Я збудую Маю Царкву, і вароты пякельныя не пераможуць яе. І Я дам табе ключы Нябеснага Валадарства, і што ты звяжаш на зямлі, будзе звязана на небе ; і тое, што ты развяжаш на зямлі, будзе развязана на небе"* ( Мац. XVI, 18, 19).*"Я маліўся за цябе, каб не зменшылася твая вера, і ты некалі навярнуўшыся, умацуй братоў тваіх."* ( Лук. XXII, 32 ). Гэтымі ўрачыстымі словамі Госпад Ісус Хрыстос ставіць Пятра фундаментам веры, яе беспамылковымнастаўнікам і захавальнікам. А паколькі фундамент Царквы мае трываць так доўга, як сама Царква, а народы заўсёды будуць мець патрэбу ва ўмацаванні ў веры, дык Пётр мусіць "жыць у сваіх наступніках", "праз іх гаварыць", як выказаліся айцы Царквы на Халцэдонскім Саборы, і гэткім чынам быць заўсёды цэнтральным пунктам каталіцкае еднасці. "Хрыстос паставіў Пятра князем усіх Апосталаў і бачным галавою ўсяе ваяўнічае Царквы" (**І Ватыканскі Сабор. 4,1**). "Першынство ( прымат ) і ўся ўлада Пятра пераходзіць, моцай распараджэння Хрыстовага, на чарговага рымскага біскупа" ( **І Ватыканскі Сабор. 4,2** ). " Волею Хрыста ёсць тое, каб св. Пётр аж да канца свету заўсёды меў наступнікаў" ( **І Ватыканскі Сабор** ). Хто трымаецца Пятра, той не заблудзіць; хто ад яго адпаў, той ужо памерлы. Гэтае святое навучанне асабліва каштоўнае ў нашым веку, калі так шырока распаўсюджаныя духоўнае асляпленне і розныя ілжэвучэнні; яно нас упэўнівае, што трымаючыся сталіцы Пятровай, веруючы і чынячы тое, што нам Пётр наказвае, можам быць пэўныя, што мы ў праўдзе. " Дзе Пётр, там Царква " ( св. Амброзый Медыяланскі ), а там , дзе Царква, там жыццё вечнае. Гэта павінна нас пабуджаць мець вялікую любоў да рымскай Царквы і напісаць у нашым сэрцы гэтыя словы Басюэ: " О святая рымская Царква - будзем трымацца твае еднасці ўсёю душою. Іншыя цэрквы могуць утраціць веру і загінуць; але ты, Царква рымская! ты заўсёды захаваеш чыстым скарб веры, табе даручаны; ты заўсёды будзеш карміць святым навучаннем ягнят і авечак [**], усю аўчарню без вынятку і розніцы."

### Прыклад святога Пятра павінен абуджаць у нас бо́льшую любоў да Ісуса Хрыста.

Па сутнасці, сваім пыкладам Пётр вучыць нас любіць Госпада Ісуса любоўю пакорнай, гарлівай, вялікадушнай.

1) Любоў святога Пятра была пакорная. *" Сымане Ёнін,* - сказаў яму Хрыстос, *-ці любіш ты Мяне больш, чым яны?"* ( *Ян. XXI, 15*). Гэтыя словы паказваюць нам, што Ісус Хрыстос даручае

---

[*] г. зн. СКАЛА, КАМЕНЬ
[**] пар. Эвангелле ад Яна, XXI, 15-17.

кіраўніцтва душ тым, якія асабліва Яго любяць; а што Пётр на гэта адказвае? Ён не кажа: люблю Цябе больш, чым яны; але кажа толькі: люблю Цябе. Не смее параўноўваць сябе ні з кім, тым меней аддаваць сабе перавагу над іншымі. Запытаны яшчэ двойчы, не давяраючы сабе, кажа: *"Госпадзе, Ты ведаеш , што я люблю Цябе."** Ягонае высокае становішча і выдатны поспех ягонага апостальства не спрычыняе ушчэрбу ягонай пакоры. Да смерці не пакідае ён уважаць сябе за грэшніка; не толькі не забываецца, што, на вялікі жаль, некалі выракся свайго Настаўніка, але штодня аплаквае свой упадак, а ягоныя шчокі носяць сляды пакутных слёз.

2) Святы Пётр быў таксама гардівы, як і пакорны; абвяшчаў вучэнне Ісуса Хрыста яўрэям і паганам сярод шматлікіх прац, праследванняў і цярпенняў; усюды распаўсюджваў ён святое Эвангелле; засноўваў Цэрквы, умацоўваў іх і кіраваў імі.

3) Нарэшце, ягоная любоў ёсць не меней вялікадушная; укінуты ў турму і ўбічаваны, ён вяртаецца з радасцю, што быў годны цярпець за свайго добрага Настаўніка. Пасля доўгіх падарожжаў, ён прыгаворваецца адным з самых жорсткіх тыранаў да пакарання ўкрыжаваннем; з радасцю прымае Пётр гэтую магчымасць даць Ісусу Хрысту довад свае любові, праліўшы дзеля Яго кроў; аб адной толькі ласцы просіць ён сваіх катаў, каб укрыжавалі яго галавою ўніз, уважаючы, што не годны такой чэсці, каб умерці як ягоны Настаўнік. Рассудзім паводле гэтага, ці любім мы Бога, асабліва ж, ці любім Яго любоўю пакорнаю, гарліваю і вялікадушнаю; ці Яго аднолькава любім на Галгофе, як і на Таборы; так у цярпенні, як і ў радасці.

---

# КАТЭХІЗІС

**У імя Айца і Сына і Святога Духа. Амэн.**

## *МАЛІТВА ГАСПОДНЯ*

**Ойча наш, Каторы ёсць у небе, святціся імя Тваё, прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая як у небе, так і на зямлі; хлеба нашага штодзённага дай нам сёння, і адпусці нам грахі нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым, і не ўвядзі нас у спакусу, але збаў нас ад злога. Амэн.**

---

* Эвангелле ад Яна, XXI, 16.

## *АНЁЛЬСКАЕ ПРЫВІТАННЕ*

Прывітана будзь, Марыя, поўная ласкі, Госпад з Табою, блаславёная Ты між жанчынаў, і блаславёны плод улоння Твайго Ісус. Святая Марыя, Маці Божая, маліся за нас грэшных, цяпер і ў гадзіну смерці нашай. Амэн.

## *АПОСТАЛЬСКІ СЫМБАЛЬ ВЕРЫ*

Веру ў Бога, Айца Ўсёмагутнага, Стварыцеля неба і зямлі, і ў Ісуса Хрыста, Сына Яго адзінага, Госпада нашага, Які быў зачаты ад Духа Святога, нарадзіўся з Марыі Дзевы, цярпеў пры Понцкім Пілаце, быў укрыжаваны, памёр і пахаваны, зышоў у пекла, на трэці дзень уваскрос з мёртвых, узышоў на неба, сядзіць праваруч Бога Айца Ўсёмагутнага, адтуль прыйдзе судзіць жывых і мёртвых. Веру ў Духа Святога, святую каталіцкую Царкву, злучнасць святых, адпушчэнне грахоў, уваскрасенне цела, жыццё вечнае. Амэн.

## Або: *НІЦЭЙСКА—КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКІ СЫМБАЛЬ ВЕРЫ*

*(адмаўляецца падчас Святой Месы)*

Веру ў адзінага Бога, Айца Ўсёмагутнага, Стварыцеля неба і зямлі, усяго бачнага і нябачнага. І ў адзінага Госпада Ісуса Хрыста, Сына Божага адзінароднага, ад Айца народжанага перад усімі вякамі: Бога ад Бога, святло ад святла, Бога праўдзівага ад Бога праўдзівага, народжаннага, не створанага, адзінасутнага з Айцом, праз Якога ўсё створана. Які дзеля нас людзей і дзеля нашага збаўлення зышоў з неба і прыняў цела праз Духа Святога з Марыі Дзевы і стаўся чалавекам. Укрыжаваны быў за нас пры Понцкім Пілаце, цярпеў і быў пахаваны, і ўваскрос на трэці дзень, паводле Пісання, і ўзышоў на неба, сядзіць праваруч Айца. І зноў прыйдзе ў славе судзіць жывых і мёртвых, і Яго валадарству не будзе канца. І ў Духа Святога, Госпада, Жыватворца, Які ад Айца і Сына паходзіць, Якому з Айцом і Сынам належыць пакланенне і слава, Які гаварыў праз прарокаў. І ў адзіную, святую, каталіцкую і апостальскую Царкву. Вызнаю адзіны хрост для адпушчэння грахоў. Чакаю ўваскрасення памерлых і жыцця вечнага. Амэн.

Слава Айцу і Сыну і Святому Духу. Як было ў пачатку, і цяпер, і заўсёды, і на вякі вякоў. Амэн.

### *Аб любові да Бога і бліжняга*

Перад усім, браты любыя, павінны мы любіць Бога, а затым бліжняга, бо гэта ёсць галоўныя запаведзі, якія нам дадзеныя.

св. Аўгусцін

### *Аб пазнанні Бога*

Адзін парыў да пазнання чыстаты, якою ёсць Бог, больш злучае душу з Богам, чым усе добрыя ўчынкі, якія здзейсніла святое хрысціянства.

Мейстэр Экхарт,
дамініканец

### *Аб разважанні*

Разважаючы розум ёсць пачаткам усялякага дабра.

св. Аўгусцін

### *Ад чаго залежыць наша шчасце?*

У сапраўдным пазнанні, што і як нам трэба рабіць, каб мы дасканала выканалі закон Божы, крыецца ўсё наша дабро і шчасце.

св. Тэрэза Авільская

### *Хто жыве добра?*

Той умее жыць добра, хто ўмее добра маліцца.

св. Аўгусцін

### *Аб малітве*

Малітва пераменьвае чалавека, з сляпых робіць асвечаных, з слабых - моцных, з грэшнікаў - святых.

св. Лаўрэнцій Джусцініані,
аўгусцінец

### *Аб хрысціянскай ветлівасці*

Ветлівасць - сястра любові.

св. Францыск Сальскі

—

## *МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСКІ НАРОД*

Сусветны Валадару, Прадвечны Божа. Ты ўвесь сусвет стварыў і законы для ўсяго ўстанавіў, кожнаму месца і мэту назначыў, а людскі род так бясконца палюбіў, што Сына Свайго Адзінароднага паслаў на зямлю, каб усе слухаючы Яго навуку ды ідучы Яго следам, увайшлі ў Тваё Нябеснае Валадарства. Мы дзеці Беларускага Народу, як маглі слухаліся Тваіх загадаў, але з слабасці чалавечае часта падалі і зневажалі Цябе сваімі грахамі. Цяпер молім Цябе шчыра: даруй нам нашы грэшныя правіны, нашу нядбайлівасць у адносінах да сябе самых і да іншых; даруй таксама тым, хто нас крыўдзіў і зневажаў. Молім Цябе шчыра, барані нас ад крыўды варожай, і дай нам ды ворагам нашым шчодраю Твае рукою, духа сапраўднае хрысціянскае любові. Дай нам еднасць у веры, згоду ў сямейным і грамадскім ды палітычным жыцці. Загаі нашы асабістыя і ўсенародныя раны душы, якія мы самі сабе спрычынілі. У нашым штодзённым жыцці, у змаганнях і спакусах, асвяці наш розум Тваім эвангельскім святлом, каб мы, захоўваючы Твае прыказанні, перамаглі ўсе цяжкасці і цярпенні, ды заўсёды Цябе баслававілі. Пашлі Беларускаму Народу святых і вялікіх слугаў сваіх, якія праведным, чэсным і мудрым жыццём і дзейнасцю вялі б Народ да лепшае долі. Дай нам святое духавенства. Блаславі нашы сем'і, каб у кожнай з іх дбалы бацька і ахвярная маці, злучаныя шчыраю святою любоўю, выхоўвалі Табе на славу, Бацькаўшчыне на карысць сваіх дзетак. Асаблівую ласку дай нашай моладзі, каб яна атрымала глыбокае хрысціянскае ўзгадаванне, і ўзрасла на карысных сыноў і дачок свайго народу.

Блаславі таксама нашы дачасныя дастаткі, не дай гінуць марна тым талентам, якія Ты ссылаеш у наш народ, але дай ім свабодна развіцца і закрасаваць Табе на славу, а ўсяму людству на карысць. Блаславі працам сялянства на раллі, працоўным у фабрыках, вучоным ва ўсіх галінах навукі, мастацтва і тэхнікі, каб за іх помаччу Беларускі Народ мог разумна і прыгожа жыць ды развівацца.

Цябе, Найсвятая Багародзіца і наша нябесная Маці, просім: прычыніся за намі, а ты святая Эўфрасіння Полацкая - патронка Беларусі -ды ўсе святыя заступнікі Беларускага Народу, апякуйцеся намі, каб мы сталіся народам святым, выконваючы Волю Божую і сваё пасланніцтва, каб прычыніліся да агульнага дабра тут на зямлі, а ў будучым жыцці атрымалі вечнае шчасце, і Табе прадвечнаму Валадару, прыносілі славу, чэсць і паклон на векі вечныя. Амэн.

# ЗМЕСТ:



З розных аўтараў выбраў ,пераклаў
на беларускую мову і дапоўніў

**Уладзімір Бурін.**

**УВАГА!** Ватыканскае радыё штодня трансліруе беларускія перадачы ў $20^{10}$ ( паводле менскага часу ), з паўторам іх раніцаю наступнага дня ў $6^{20}$ ( таксама паводле менскага часу ), на кароткіх хвалях 31 і 41 метраў.

RĪGAS METROPOLIJAS KŪRIJA

Nodota salikšanai 22.11.91.
Parakstīta iespiešanai 25.11.91.
Reģ. apliecība № 2-0024 Ofsetiespiedums.
0,93 uzsk. iespiedl., 0,93 uzsk. krāsu novilk.
Metiens 5000 eks. Pas. 3364.
Iespiesta Liepājas tipogrāfijā,
Latvija, 229700, Liepājā, A. Pumpura ielā 10.